**Беларусам не патрэбен Майдан, беларусам патрэбны чэсныя, дэмакратычныя выбары!**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
*Якуб КОЛАС*

**№ 54 (4512)**

10 ліпеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


9 772071 964000 20054

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЮБІЛЕЙНЫ ЛІСТ

## *Іосіф СЯРЭДЗІЧ,*

*заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар газеты «Народная Воля»*



**25**

Шаноўныя сябры!

У нас, журналістаў, усіх супрацоўнікаў рэдакцыі, як і ў Вас, прыхільнікаў свабоды слова, свята: заўтра «Народная Воля» адзначыць сваё 25-годдзе!

Гэта ж толькі падумаць: ужо чвэрць стагоддзя дэмакратычная ластаўка нясе на сваіх нястомных крылах **ПРАЎДУ** і **СПРАВЯДЛІВАСЦЬ**, чалавечую **ГОДНАСЦЬ** і светлую **ДУХОЎНАСЦЬ**, **ВЕРУ** ў шчаслівую будучыню роднай Беларусі.

За два з паловай дзесяцігоддзі з інфармацыйнага поля знікла мноства незалежных газет. Злыя сілы не аднойчы спрабавалі знішчыць і «Народную Волю». Не ўдалося. Выжыла, выстаяла! Не здрадзіла ні сабе, ні Вам, паважаныя чытачы.

«Народная Воля» была і застаецца вернай свайму галоўнаму прынцыпу – служыць Беларусі, а не нейкім кланам, асобным палітычным гуртаванням, фінансавым магнатам, розным прайдзісветам і балабонам. Для яе няма закрытых тэм, як і недакранальных асоб. На яе старонках знаходзіць гарачую падтрымку ўсё тое, што спрыяе няспыннаму развіццю роднай Беларусі, услаўленню яе гістарычнага шляху, адраджэнню нацыянальна-культурнай спадчыны.

Хачу адзначыць: «Народная Воля» ніколі не была і ніколі не стане таблоідным выданнем з адценнем жаўцізны. Для яе сенсацыйнасць – гэта не публічная дэманстрацыя чужой бруднай бялізны, не фэйкавасць і не тыражаванне амаральнасці і пошласці. Яе арыенцір – здаровыя інтарэсы шырокага грамадства, садзейнічанне ўсяму таму, што ўпрыгожвае чалавечае жыццё, робіць яго больш шчаслівым і радасным.

У гэтыя дні «Народная Воля» здае чарговы экзамен – на прафесіяналізм, на ўсебаковае і аб'ектыўнае асвятленне чарговай выбарчай кампаніі. Яна знаходзіцца ў гушчы тых грамадска-палітычных падзей, якія ўсё больш шырока і больш актыўна разгортваюцца напярэдадні апошняга этапу волевыяўлення народа – галасавання. Так, беларусам не патрэбен Майдан, беларусам патрэбны чэсныя, дэмакратычныя выбары! І гэты лёсавызначальны слоган вось ужо каторы тыдзень знаходзіць адлюстраванне на першай паласе кожнага нумара газеты.

Сёння, напярэдадні юбілейнай даты «Народнай Волі», я як яе заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар не магу не ўзгадаць хоць некалькі старонак з біяграфіі нашай агульнай з Вамі, паважаныя чытачы, газеты. Да якіх толькі рэпрэсій не прыбягалі ў свой час улады, каб спыніць яе выданне ці ў крайнім выпадку паставіць газету на калені! Тройчы на працягу некалькіх гадоў яна вымушана была друкавацца за мяжой – у Літве і Расіі. Душылі шматлікімі штрафамі і міністэрскімі папярэджаннямі, уводзілі забароны на распаўсюджванне газеты праз шапікі і падпіску, арыштоўвалі тыражы. Але як аслу сваімі вушамі ніколі не засланіць сонца, так і нікому не адолець «Народную Волю» ніякімі рэпрэсіямі і тэрорам. І хочацца спадзявацца, што чорныя хмары мінулі, наступнае 25-годдзе газеты будзе больш радасным і шчаслівым. Як і будучыня нашай матухны Беларусі!

Віншую супрацоўнікаў рэдакцыі, актыўных нештатных аўтараў і ўсіх-усіх чытачоў «Народнай Волі» з яе слаўным юбілеем!

***Жыве «Народная Воля»! Жыве Беларусь!***

**Да 15 ліпеня Цэнтральная выбарчая камісія павінна канчаткова вызначыцца з рэгістрацыяй канкрэтных кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

ЕВРОПАРЛАМЕНТ – О БЕЛАРУСИ

## «Мы солидарны с вами и вашими требованиями перемен...»



*Вчера ситуация в Беларуси обсуждалась в Европарламенте. Многие выступающие заострили внимание на репрессивных действиях белорусских властей и выразили поддержку гражданскому обществу.*

**По мнению депутата Андрюса Кубилюса** (Литва), то, что сейчас происходит в Беларуси, напоминают ему *«балтийскую революцию 1990 года». «Белорусские музыканты записывают популярные песни против режима, представители культурной элиты храбро выступают с заявлениями, осуждающими режим, блогеры создали реальную онлайн-сеть сопротивления,* – перечислил депутат. – *И все они подвергаются преследованиям со стороны режима. Главные соперники Лукашенко – Бабарико и Тихановский – находятся в заключении. За последний месяц список международно признанных политзаключенных вырос до 30 человек, включая такого известного оппозиционного лидера, как Павел Северинец».*

Андрюс Кубилюс считает, что от Европарламента должны идти *«три громких и ясных послания»* белорусам.

*«Во-первых, для граждан Беларуси: мы солидарны с вами и вашими требованиями перемен, и мы будем защищать ваше право принять решение об изменении вашей страны, чтобы стать нормальной европейской демократической страной. Во-вторых, четкое послание для Лукашенко и его номенклатуры: если 14 июля оппозиционные кандидаты не будут зарегистрированы, если политзаключенные и кандидаты не будут освобождены, если людей на улицах по-прежнему будут преследовать и запугивать, то будут санкции, персональные санкции. И в-третьих, послание для нас самих: мы должны защитить права наших соседей»,* – заявил евродепутат.

ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

## Як хутка каранавірус пакіне межы Беларусі?

Вы верыце, што каранавірусная эпідэмія ў Беларусі шпарка ідзе на спад? Заўважым: афіцыйныя лічбы Міністэрства аховы здароўя сведчаць пра станоўчую дынаміку. Паводле звестак на ўчарашні дзень, за перадапошнія суткі ў краіне захварэла на COVID-19 менш за 200 чалавек. А, здаецца, яшчэ зусім нядаўна статыстыка была зусім іншай: каранавірусны дыягназ выстаўляўся на працягу сутак амаль тысячы пацыентам.




Дай Бог, каб пандэмія сапраўды хутка пакінула межы Беларусі. І многае тут залежыць ад таго, наколькі аб'ектыўна Міністэрства аховы здароўя падае інфармацыю пра каранавірусную сітуацыю.

СТАЛО ИЗВЕСТНО

## Задержан бывший директор ДФР

Бывший заместитель начальника управления КГБ по Брестской области **Анатолий Громович** возглавил Департамент финансовых расследований Комитета госконтроля в январе 2002 года.

Финансовой милицией он руководил до ноября 2006 года. В январе 2009 года его задержали. К уголовной ответственности были привлечены 36 человек, большинство из которых являлись должностными лицами таможни «Западный Буг» и Управления КГБ по Брестской области. Все они, по выводам следствия, *«в составе преступной организации осенью 2001 года осуществили незаконное перемещение с использованием подложных документов через таможню «Западный Буг» компьютерной техники, обуви, причинив ущерб государству на сумму свыше 20 миллиардов рублей».*

15 ноября 2011 года Белорусский военный суд признал 25 обвиняемых невиновными за недоказанностью в части совершенных преступлений. В их числе были Анатолий Громович и бывший замначальника таможни «Западный Буг» Евгений Селиванов.

В 2012 году Громович стал членом Совета директоров российского «СтарБанка», которому в Беларуси принадлежал «ИнтерПэйБанк» (ранее «Кредэксбанк»). В 2015 году акционеры приняли решение о ликвидации «ИнтерПэйБанка». Это решение последовало после того, как Нацбанк отозвал у «ИнтерПэйБанка» все лицензии на осуществление банковской деятельности.

Задержания в «Белгазпромбанке» начались 11 июня. С тех пор в СИЗО КГБ находятся более 20 человек по данному делу. Это бывшие и нынешние топ-менеджеры «Белгазпромбанка», а также представители коммерческих структур, которые тесно сотрудничали с банком. И вот за решеткой оказался Анатолий Громович.

СУД

## «Віны не прызнаў, у злачынстве не раскаяўся»

*Пракурор запрасіў 14 гадоў турмы для былога ахоўніка Лукашэнкі Андрэя Уцюрына*

Уцюрын на пачатку працэсу з абвінавачаннем пагадзіўся, аднак адзначыў, што не цалкам згодны з кваліфікацыяй яго дзеянняў.

9 ліпеня пракурор папрасіў суд прызнаць Андрэя Уцюрына вінаватым, пазбавіць яго звання палкоўніка і магчымасці займаць кіруючыя пасады, а таксама прызначыць яму пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 14 гадоў з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Акрамя гэтага, пракурор просіць канфіскаваць ва Уцюрына 192 тысячы долараў ЗША.

Пракурор дадаў, што па амністыі Уцюрына можна часткова вызваліць ад прызначанага пакарання тэрмінам на 1 год.

Андрэй Уцюрын абвінавачваецца паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэкса: ч.3 арт.430 (атрыманне хабару), ч.5 арт.16 (саўдзел у злачынстве) і ч.2 арт.431 (даванне хабару паўторна альбо ў асабліва буйным памеры).

Агульная сума атрыманага Уцюрыным хабару, паводле меркавання абвінавачання, склала каля 190 тысяч долараў.

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Як буравеснікі праспалі буру

У гэтай выбарчай кампаніі ўжо ёсць свае ахвяры і героі, але я хачу пагаварыць пра тых, хто можа бяздарна змарнаваць сапраўды гістарычны момант.

Выбары аказаліся нечакана цяжкімі для ўлады. Народ забурліў. І менавіта ў гэтай сітуацыі традыцыйная апазіцыя, якая шмат гадоў, нібы горкаўскі буравеснік, клікала да палітычнага ўздыму, збольшага ўвогуле выпала з працэсу. Не відаць і не чуваць партыі «Справядлівы свет» Сяргея Калякіна, БСДП (старшыня Ігар Барысаў), КХП – БНФ, Партыі БНФ. Выбачайце, хлушу: апошняя адзначылася днямі эпахальнай акцыяй – падала ў ЦВК скаргу з патрабаваннем адмовіць Аляксандру Лукашэнку ў рэгістрацыі кандыдатам. Угадайце з трох разоў, ці задаволяць.

Правацэнтрысты перасварыліся, як дзеці ў пясочніцы, ды правалілі разрэкламаваныя праймерыз (праўда, спісалі фіяска на «карону»). Пасля чаго Юрый Губарэвіч, Вольга Кавалькова, Мікалай Казлоў зарэгістравалі паасобку свае ініцыятыўныя групы. Але наколькі маральнай справай было збіраць подпісы за вылучэнне гэтых палітыкаў кандыдатамі, калі апрыёры было заяўлена, што далей яны не пойдуць? І ўвогуле якую такую звышзадачу яны вырашылі гэтым вялым, фармальным удзелам у кампаніі?

Мікола Статкевіч ва ўсякім разе адразу шчыра заявіў, што хоча вылучыць «кандыдатаў пратэсту» дзеля абуджэння вулічнай актыўнасці (іншая рэч, што яму не далі разгарнуцца). Тактыку ж правацэнтрыстаў найлепей характарызуе выраз «ні рыба ні мяса». Адно што іх пікеты ў Мінску на фінішы збору подпісаў далі штуршок да ўзнікнення ланцугоў салідарнасці. Вось і ўвесь плён.

Гэтая выбарчая кампанія магла б атрымацца зусім бляклай, калі б не чорцікі з табакеркі: Сяргей Ціханоўскі, Валерый Цапкала, Віктар Бабарыка. Яны даказалі, што і пры пандэміі можна збіраць подпісы са свістам. Але гэтых нечаканых палітычных праціўнікаў (якія, уласна кажучы, і абудзілі грамадства, адным махам дамагліся таго, чаго шмат гадоў не магла зрабіць старая кагорта барацьбітоў) улада пастаралася нейтралізаваць грубымі метадамі. Ціханоўскі нават не здолеў зарэгістраваць ініцыятыўную групу, бо сядзеў «на сутках». Цапкалу зрэзалі пры праверцы подпісаў. Бабарыка апынуўся ў следчым ізалятары КДБ, яго рэгістрацыя кандыдатам пад вялікім пытаннем.

І сёння ўжо відавочна, што не адбылося моцнай счэпкі каманд гэтых новых фігур з традыцыйнай апазіцыяй, якая мае не толькі шлейф параз, але і арганізацыйны досвед. З аднаго боку, наіўнымі ці самаўпэўненымі аказаліся палітычныя неафіты, з іншага – старая апазіцыя не сказаць каб ірванулася падтрымаць новую хвалю.

Так што раз'яднанасць тых сіл, што хочуць перамен, застаецца балючай праблемай.

Між тым найболей імавернымі прэтэндэнтамі на далейшы ўдзел у кампаніі выглядаюць памяркоўныя апазіцыянеры Андрэй Дзмітрыеў, Сяргей Чэрачэнь ды вядомая шэрагам скандалаў экс-дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Ганна Канапацкая. Прычым, паводле ЦВК, правераных подпісаў у Канапацкай ды Чэрачня атрымалася значна болей, чым яны, паводле ўласных заяў, увогуле здалі. Што за праява? Палітычныя аналітыкі лічаць гэта правакацыяй улад з мэтай дыскрэдытаваць патэнцыйных суседзяў дзейнага прэзідэнта па выбарчым бюлетэні. Запэцкаць, каб да іх не перацяклі пратэстныя галасы.

І як жа гэтыя дзеячы адрэагавалі на «падарунак»? Чэрачэнь не можа ўцямна патлумачыць казус, але хаця б прызнае, што здаў подпісаў меней. Канапацкая ж паспрабавала выкручвацца, але надта няўдала. Напрыклад, заявіла, што на адным БЕЛАЗе ў Жодзіне сабрала больш за восем тысяч подпісаў. Аднак потым Цэнтральная выбарчая камісія апублікавала звесткі, што ў гэтым горадзе ініцыятыўная група былой дэпутаткі сабрала толькі 83 верагодныя подпісы. Хлусня стала настолькі відавочнай, што да яе, Канапацкай, як мне думаецца, згублены ўсялякі інтарэс выбаршчыкаў.

Ці кінуцца прыхільнікі зрэзаных прэтэндэнтаў падтрымліваць палітыка, што дазваляе сабе такія фарталі? І ці можна спадзявацца, што асобы, якіх шмат хто называе спарынг-партнёрамі Лукашэнкі, дамовяцца між сабой пра каардынацыю намаганняў? Тэарэтычна яны маглі б абраць са свайго ліку своеасаблівага адзінага кандыдата – зрабіць тое, што не ўдалося ўдзельнікам праймерыз. Але, на мой погляд, ёсць немалая імавернасць, што Дзмітрыеў, Канапацкая і Чэрачэнь стануць нагадваць лебедзя, рака ды шчупака з вядомай байкі. І ў такім разе дапамогуць уладзе збіць з панталыку немалую частку электарату. Тады выбары будуць канчаткова «зліты».

Між тым гэтая выбарчая кампанія сапраўды фенаменальная. Яна паказала, што папулярнасць улады як ніколі нізкая, што грамадства стамілася ад 26-гадовага кіравання адной асобы. «Падпісная рэвалюцыя», ланцугі салідарнасці засведчылі, што перамен захацелі нават многія раней апалітычныя абывацелі. Здавалася б, акурат тая сітуацыя, пра якую даўно марыла традыцыйная апазіцыя. Але яна пакуль што, мякка кажучы, не бліснула. І ёсць вялікія сумневы, што ўвогуле бліснe ў гэтай кампаніі.

Яшчэ болей, калі яна не асэнсуе ўрокі гэтага драматычнага лета, не адмовіцца ад змярцвелых шаблонаў, не здолее ўзняцца над разадзьмутымі амбіцыямі дробных дзеячаў, не навучыцца хутка і гнутка рэагаваць на дынаміку жыцця, то баюся, што гэтай старой гвардыі месца застанецца толькі на сметніку гісторыі.

*www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».*

ЗАКУЛИСЬЕ

# Михаил ДРИНЕВСКИЙ: «Сегодняшняя ситуация в стране радости не приносит…»

*На прошлой неделе председатель Совета Республики Наталья Ивановна Кочанова провела встречу с творческой интеллигенцией Беларуси. В таком формате подобное собрание у нас состоялось впервые: те, кто занимал эту высокую государственную должность ранее, никогда не удостаивали внимания творческую элиту страны. Тем более что кроме Кочановой спикерами на встрече были еще председатель КГБ Валерий Вакульчик и новый председатель КГК Иван Тертель. Со стороны творцов на встречу были приглашены, по сути, все, кто хотел и считал для себя это возможным. Фейс-контроля у входа не было, по спискам никого не проверяли.*

*Встреча проходила в красивом концертном зале «Верхний город», длилась она почти четыре часа. Не все, кто был в тот день в зале, захотели потом поделиться впечатлениями с «Народной Волей», некоторые ограничились дипломатичным: «Без комментариев». Но у иных почему-то сдавали нервы, один известный оперный певец вообще закричал в трубку почти в истерике: «От вас потом нам одни неприятности!» Что ж, ничего удивительного, мы хорошо понимаем всех своих собеседников: сейчас в стране действительно нездоровая, взвинченная атмосфера. Тем не менее некоторые известные деятели искусств прокомментировали встречу с государственными деятелями нашей страны достаточно откровенно.*

### Михаил ДРИНЕВСКИЙ, народный артист Беларуси, профессор, художественный руководитель и главный дирижер Национального академического народного хора Республики Беларусь имени Г.И.Цитовича:



– Разговор на встрече шел о том, быть или не быть Беларуси самостоятельной, потому что, по словам Натальи Кочановой, есть много сил, которые хотели бы сделать наоборот. И единственный, кто может по-настоящему противостоять этим злым силам, – это действующий президент Александр Григорьевич Лукашенко. А другие все претенденты на этот пост – они зависимые, они винтики. И сейчас, говорила Наталья Ивановна, мы будем голосовать не только за президента, но прежде всего за самостоятельную Беларусь.

Вспоминали банк, коррупцию – это уже в выступлении Вакульчика. Он сказал, что все негативные факты скоро будут доложены народу. А когда скоро? В общем, у всех своя правда. Сегодняшняя ситуация в стране радости не приносит. Мне во всяком случае тревожно. Такой сложной внутренней обстановки еще не было. И дай Бог, чтобы она разрешилась без крови. Я на встрече не выступал, но мои коллеги поднимались и говорили о своих проблемах: зарплатах, гастролях, квартирах. Наталья Кочанова пообещала, что обо всех вопросах, звучащих на встрече, доложит в тот же вечер президенту. Но вообще, чтобы выслушать всех, кто хотел выступить, времени не хватило. Кажется, министр культуры будет еще собирать деятелей культуры отдельно.

### Галина АДАМОВИЧ, режиссер-документалист, член Белорусского Союза кинематографистов, призер многочисленных международных кинофестивалей:



– Главным выступающим была Наталья Ивановна Кочанова, она говорила в основном о том, какие проблемы стоят перед государством и как героически они решаются. Понятно, что проблемы серьезные, они связаны с нефтью, вирусом, экономикой. И понятно при всем при том, что культура у государства пока на каком-то тридцать третьем месте, к сожалению. Я часто вспоминаю слова Черчилля (хотя, возможно, это легенда), который во время войны должен был подписать бюджет страны, но там не было строки «культура». И он спросил: «За что мы тогда воюем, если нет культуры?» Вот недавно мы были в Бобруйске, старый центр отремонтирован: фонари и деревянные скамейки. Но люди грызут семечки и плюют шелуху прямо на дорожки, а на скамейках вырезают ножичком свои имена. И это как раз про то, что нет культуры! И сколько бы денег мы ни вкачивали во внешнее убранство, а если человек невоспитан, то он будет плевать куда попало.

Мы очень ждали от генерального директора «Беларусьфильма» Карачевского, который тоже был на встрече, что он возьмет слово и скажет, в какой ситуации находится вся кинематографическая отрасль. Я этим делом занимаюсь 30 лет, и меня волнует, что будет с нашей киностудией. Но директор наш поднялся и ни слова не сказал о «Беларусьфильме». Он взял слово после выступления певца Хлестова, который жаловался, что не может организовать концерт в Марьиной Горке, и это коррупция. А в это время, мол, россияне косят у нас в стране большие деньги. Очень оживился по этому поводу Вакульчик, сказал, что проверит эту бедную Марьину Горку. «И пусть министр культуры тоже займется этим… Если успеет», – добавил он грозно. И вот после этого встал наш директор Карачевский. Я ожидала, что он скажет, что киностудия три месяца стоит, что не работает ни одна съемочная группа, даже те, которые в запуске. А он стал отвечать Леше Хлестову, говорить о том, что знает, как тяжело работать чиновникам на местах. Вот и всё его выступление.

А Наталья Кочанова говорила и убедительно, и человечно. У нее красивый голос, она его хорошо интонирует. Говорила она внятно, чего не скажешь о мужчинах, которые пришли с ней, особенно чиновник из Госконтроля. Он сорок минут говорил, кто, куда, что: деньги, офшорные зоны... Ты напрягаешься и теряешь мысль, ничего не понятно, все без фамилий. И почему нам об этом рассказывают сейчас в подробностях?

### Александр ГАРЦУЕВ, художественный руководитель Республиканского театра белорусской драматургии, заслуженный деятель культуры РБ:



– Я думал, вы мне позвонили, чтобы спросить про театр, а вы про политику. Я в этом ничего не понимаю. Мне 61 год, Бог знает, сколько мне отмерено судьбой для творчества, поэтому мне хочется сейчас полностью сосредоточиться на деле, которое я, смею надеяться, знаю. И делать его хорошо. Приходите в театр, мы готовим три премьеры, вот о чем и поговорим. А в политике, ей-богу, я не разбираюсь.

### Александр АНИСИМОВ, народный артист Беларуси, главный дирижер и художественный руководитель Государственного академического симфонического оркестра Беларуси:



– Что я могу сказать? Я не скучал на этом собрании. Наталья Кочанова выглядела очень достойно. Она опытный человек и, понятно, владеет эксклюзивной информацией, которая доступна далеко не каждому СМИ. Но ничего агрессивного, назидательного в ее словах не звучало, более того, очень располагало то, что многих в аудитории Наталья Ивановна знала в лицо и обращалась к людям по имени-отчеству. И выглядело это не нарочито. Она вспоминала свою семью, внуков, рассказала, что ежедневно в шесть утра слушает «Евроньюс». В общем, было достаточно человечно. Да и выглядела она очень мило, мы ведь редко государственных чиновников такого уровня видим вблизи (хотя на сцене я с ней пересекался, да). У Натальи Кочановой вообще очень хорошая речь: без оговорок, нечленораздельных слов, ошибок в ударении. Это подкупает и заставляет слушать человека внимательно. И потом, у нее была очень продумана вся конструкция выступления. Она сказала, что государству с начала года пришлось пережить несколько пандемий: инфекционную, экономическую, политическую, информационную. В общем, ее речь была достаточно образна и убедительна.

Выступление Кочановой заняло половину всего времени. Потом взяли слово два других спикера – Валерий Вакульчик и Иван Тертель. Тоже вполне достойно: не пугали, не нажимали, хотя для чего нас собрали – ясно совершенно всем: впереди выборы. И в этом ничего дурного нет, почему бы чиновникам не высказать свою позицию в отношении лидера, которого они поддерживают. Другое дело, почему бы не дать возможность и остальным так же открыто встретиться со своими лидерами? Тоже было бы интересно.

Тем не менее я впервые услышал из уст государственного чиновника Беларуси огромную, прямо-таки жаркую лаву негатива на Россию. Для этого Валерием Павловичем Вакульчиком был, например, даже употреблен такой негативный образ, как наперсточники. Прозвучала мысль о том, что общественным мнением сейчас пытаются манипулировать из-за рубежа. Весь пафос выступления сводился к тому, что Россия пытается захватить позиции в Беларуси и, чтобы дестабилизировать ситуацию, выставила свои фигуры на выборах. И это говорилось именно в тот момент, когда наш лидер был в России и вместе с Путиным открывал памятник во Ржеве. А чуть раньше наш лидер сидел опять же рядом с Путиным на Параде Победы в Москве. А государственные мужи, получается, в это же самое время очень настойчиво, ярко и образно обнажали всю изнанку губительной для Беларуси политики России. Я был страшно удивлен этим противоречием.

**Елена МОЛОЧКО.**

ПЕРАСЛЕД

# Валянцін СТЭФАНОВІЧ: «Справы могуць не дайсці да суда»

*Ужо 18 чалавек знаходзяцца пад вартай у рамках крымінальных спраў, распачатых паводле артыкула 342 Крымінальнага кодэкса.*



Сярод іх блогеры, актывісты, сябры ініцыятыўнай групы патэнцыяльнай кандыдаткі на пасаду прэзідэнта Святланы Ціханоўскай і простыя грамадзяне Беларусі. Тым, каму ўжо прад'яўлена абвінавачанне, вядома, што яны праходзяць па так званай справе Ціханоўскага, звязанай з інцыдэнтам на выбарчым пікеце 29 мая.

Артыкул 342 КК Рэспублікі Беларусь гучыць так: «Арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак і спалучаны з відавочным непадпарадкаваннем законным патрабаванням прадстаўнікоў улады або пацягнулі парушэнне працы транспарту, прадпрыемстваў, устаноў або арганізацый, альбо актыўны ўдзел у такіх дзеяннях».

*«Крымінальны пераслед і змяшчэнне пад варту па артыкуле 342 Крымінальнага кодэкса ў Беларусі стаў новай формай адвольных затрыманняў,* – **кажа праваабаронца Валянцін Стэфановіч.** – *Асноўная мэта – ізаляцыя на перыяд выбарчай прэзідэнцкай кампаніі.*

*Улады выкарыстоўваюць гэтыя падзеі як нагоду для затрымання ўсіх, на іх думку, патэнцыяльна небяспечных людзей: блогераў, актывістаў і іншых. І падобна, што не надта клапоцяцца пра якасць гэтай крымінальнай справы і, напэўна, не вельмі разлічваюць на яе судовыя перспектывы».*

*Паводле меркавання праваабаронцы, справы не абавязкова могуць дайсці да суда.*

*«Як паказала практыка і «справа патрыётаў» у 2017 годзе, калі крымінальная справа спыняецца на этапе папярэдняга следства да суда, то ніякіх кампенсацый праз суд дамагчыся ў сувязі з утрыманнем пад вартай немагчыма. Гэта, канешне, вельмі зручная форма для ўлад. Так можна ледзь не год утрымліваць чалавека ў СІЗА, а потым спыніць крымінальную справу і вызваліць яго без усякіх кампенсацый»,* – дадае Валянцін Стэфановіч.

**Віктар ШПАК.**

ЕСТЬ ВОПРОС...

# Где в Минске можно платно сделать тест на коронавирус?

*Как сообщило Министерство здравоохранения, в Минске уже в девяти поликлиниках проводится экспресс-тестирование на антитела к COVID-19.*

На платной основе, цена – 22,5 рубля.

Вот где можно пройти такое обследование:

- 3-я Центральная районная клиническая поликлиника Октябрьского района г.Минска,
- 6-я Центральная районная клиническая поликлиника Ленинского района г.Минска,
- 14-я Центральная районная поликлиника Партизанского района г.Минска,
- 25-я Центральная районная поликлиника и 39-я городская поликлиника Московского района г.Минска,
- 8-я городская поликлиника,
- 29-я городская поликлиника,
- 33-я городская студенческая поликлиника,
- 35-я городская поликлиника,
- 38-я городская поликлиника.




ПЫТАННЕ – АДКАЗ

# Эдуард ХАНОК: «…Ніхто яго і не прасіў, каб ён там стаяў, сам нейкім чынам пралез»

**– Падчас публічных імпрэзаў 3 ліпеня побач з Аляксандрам Лукашэнкам нечакана апынуўся Аляксандр Саладуха. Добразычліўцы пачалі строіць здагадкі, што, магчыма, аблашчаны спявак узнікне на нейкай пасадзе. Як вам такая культуралагічная канспіралогія?**

– Смеяцеся ці што? Проста блеф. Мелькам бачыў, як побач прыстроіўся... Гэта чалавек, які ўсюды без мыла шчэміцца. У яго цяпер перыяд нетрымання, не разумее свайго месца. Людзі з беспадстаўна завышанай самаацэнкай, як правіла, дрэнна канчаюць. Мабыць, ніхто яго і не прасіў, каб ён там стаяў, сам нейкім чынам пралез. Адсутнічаюць тармазы. Вось яго панесла, і ён ужо ўяўляе сябе дзесьці вельмі і вельмі высока.

Дах знесла – ну што ж, здараецца. Час паправіць. Як той казаў, цяжарнасць – з'ява часовая. Так і з ім. Таму я не бачу ніякай канспіралогіі, а тым больш кандыдата на міністра культуры. Ён нават паводле асноўнай адукацыі *(медык. – **РС**)* не мае ніякага дачынення да культуры. Яго прызначылі старшынёй журы дзіцячага конкурсу, але да кар'ернага росту гэта не мае ніякага дачынення.

*(З інтэрв'ю народнага артыста Беларусі Эдуарда Ханка Радыё Свабода.)*



ГУЧНАЯ СПРАВА

# Ігар Комлік патрапіў пад амністыю

*А Генадзь Фядыніч?*

Нагадаем, што 24 жніўня 2018 года суд Савецкага раёна Мінска асудзіў кіраўнікоў прафсаюза РЭП **Ігара Комліка** і **Генадзя Фядыніча** на 4 гады абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу з забаронай займаць кіруючыя пасады тэрмінам на 5 гадоў.

Ігар Комлік пачаў адбываць «хатнюю хімію» з 19 снежня 2018 года, Генадзь Фядыніч – са студзеня 2019-га.

У лістападзе мінулага года стала вядома, што Фядыніч і Комлік патрапілі пад дзеянне закона аб амністыі, прынятага да 75-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тэрмін адбыцця пакарання ім скарацілі на год. А 22 мая гэтага года пачаў дзейнічаць Закон «Аб амністыі ў сувязі з 75-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гадоў». Зараз Ігар Комлік даведаўся, што ён патрапіў пад дзеянне і гэтага дакумента.

*«6 ліпеня ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Фрунзенскага раёна мне ўручылі паперу, у якой паведамлялася, што я патрапіў пад дзеянне Закона аб амністыі і мне яшчэ на год зменшылі тэрмін пакарання,* – кажа **Ігар Комлік**. – *З улікам таго, што ў жніўні 2017 года, калі была распачата справа, я пэўны час знаходзіўся ў СІЗА, мне засталося адбываць пакаранне крыху больш за месяц. Такім чынам, паводле маіх падлікаў, «хатняя хімія» павінна скончыцца 14 жніўня».*

Што тычыцца Генадзя Фядыніча, то ён не атрымліваў ніякіх паведамленняў пра тое, што патрапіў пад амністыю.

*«Пра амністыю не ведаю, затое апошнім часам міліцыянеры сталі амаль кожны дзень прыходзіць да мяне дадому правяраць, ці не парушаю я рэжым адбыцця пакарання*, – паведаміў Генадзь Фёдаравіч «Народнай Волі». – *Відаць, гэта звязана з прэзідэнцкай выбарчай кампаніяй – баяцца, што ўзначалю пратэсты…»*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

## КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



### Удакладненне

Фразе «Пабачыў я многа ў жыцці
І пабываў ледзь не ўсюды на свеце»
Правільней зараз замену знайсці:
«Круглыя суткі сяджу ў інтэрнэце».

### Каму пашанцавала?

– Дачушцы ў вас пашанцавала дужа:
На вашага яна падобна мужа.
І гэта скажа кожны, хто зірне.
– Хутчэй, бадай, пашанцавала мне…

### Падлажыць бы саломкі…

Раз упала з кабылы кабета.
– Каб жа знала, – сказала, – пра гэта,
Дык саломкі б я тут падлажыла.
– Хоць паелі б… – сказала кабыла.

### Па-добраму

– Навошта, дарагая, нам раздрай?
Па-добраму расстанемся давай,
Бо толькі нервы спалім на «вайне»…
– Ты ўсё, што ёсць,
Пакінуць хочаш мне?

### «Сустрэча на барыкадах»

Ці мітынг, ці якаясь забастоўка,
Амапаўцы стаяць перад натоўпам,
І ляскаюць дубінкі аб шчыты.
Адзін – другому:
– Цётку бачыш ты?
Таўстая і ў гарошыну спадніца.
То – цешча.
Ёй жа дома не сядзіцца.
Скажу табе: такая ўжо змяя!
Дык не чапай яе.
Яна – мая…

### «Парадаваў» тату

Шасцікласнік-сын прыйшоў дахаты,
Сцішана звяртаецца да таты –
Мусіць, прадчуваючы бяду:
– Калі ў сёмы клас я перайду,
Абяцаў ты мне пяцьсот рублёў…
– Я не адмаўляюся ад слоў.
– Дык і атрымай сюрпрыз харошы:
Для цябе я сэканоміў грошы…

### Шпагат

Займалася фітнесам, бегала шмат,
Таму і цыбатая, як журавель.
Ды сесці ніяк не магла на шпагат,
Пакуль не зварыла дзіцёнку кісель…

### Не тыя рукі

Яна была халодная, як камень,
Адпрэчыла з ухмылкай нехарошай:
– І не чапай, балбес, мяне рукамі,
Якія зарабляць не ўмеюць грошай!

### Блудлівец і сем'янін

Калі ў абдымках жонкі часта сніцца
Суседава «палова», а падчас
Увогуле другая маладзіца,
Дык, значыць, вы блудлівец, лавелас.
Калі ў абдымках вы чужое жонкі
І пра сваю вярэдзіць успамін,
Дык можаце лічыць –
Няма й гамонкі! –
Што вы харошы вельмі сем'янін.

### У бібліятэцы

– Скажыце, пакурыць мне можна? –
Гучыць пытанне асцярожна
Ад маладога чалавека.
– Мужчына, тут бібліятэка!
Крыху сумеўся ад адказу
І перайшоў на шэпт адразу:
– Прабачце… Дык скажыце мне:
Курыць тут можна ўсё ж ці не?

### Асмялеў

У кабінет зайшоў нясмела хлопец,
Увесь дрыжыць, нібы асіны ліст,
Паралюш, можа быць, ад страху схопіць.
Агледзеў хворы зуб урач-дантыст
І зразумеў, што рваць, канешне, трэба.
Анестэзія не прагоніць страх.
Набулькаў спірту, даў кавалак хлеба.
– Глытай!
І хлопец залпам шклянку – гах!
– Ідзі садзіся! –
Доктар хлопца кліча.
Той асмялеў і грозны, як бульдог,
На доктара ён гыркнуў ваяўніча:
– Калі мяне зачэпіш – дам у рог!

ВАС ЦІКАВІЦЬ…

# У чым абвінавачваюць Віктара Бабарыку?

*«Народная Воля» ў мінулых нумарах пісала пра тое, што банкіру Віктару Бабарыку і ягонаму сыну прад'явілі абвінавачанні, але не паведамлялася, што ж канкрэтна ім інкрымінуецца. За што яны пазбаўлены волі? Калі ласка, надрукуйце, у чым іх вінавацяць? Я лічу, што нейкае глупства рабіць з гэтага тайну!*

**Іван МІХАЙЛАЎ, Мінскі раён.**

Справа ў тым, што адвакатам забаранілі называць артыкулы Крымінальнага кодэкса, паводле якіх выстаўлена абвінавачанне, яны далі падпіску аб неразгалошванні. Але гэты сакрэт раскрылі ў Мінскім гарадскім судзе, дзе вывесілі «Спіс крымінальных спраў апеляцыйнай інстанцыі, прызначаных да слухання», з якога і сталі вядомы артыкулы Крымінальнага кодэкса, паводле якіх абвінавачваюцца Віктар і Эдуард Бабарыка.

Так, **Віктару Бабарыку** прад'яўлены абвінавачанні па ч.2 арт.235 (легалізацыя («адмыванне») сродкаў, атрыманых злачынным шляхам, учыненыя паўторна, або службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў, альбо ў асабліва буйным памеры), ч.2 арт.243 (ухіленне ад выплаты падаткаў, што пацягнула шкоду ў асабліва буйным памеры) і ч.2 арт.431 (дача хабару паўторна або ў буйным памеры) КК РБ.

**Эдуард Бабарыка** абвінавачваецца па ч.2 арт.243 (ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры) КК РБ.

У тым жа спісе фігуруюць яшчэ два прозвішчы людзей, якія праходзяць па так званай справе «Белгазпрамбанка».

**Дзмітрый Карака** (асабісты памочнік і каардынатар ініцыятыўнай групы Віктара Бабарыкі) абвінавачваецца па ч.2 арт.243 (ухіленне ад выплаты падаткаў, што пацягнула шкоду ў асабліва буйным памеры).

**Антон Марозаў** (працаваў у юрыдычным аддзеле «Белгазпрамбанка», мае долю ў кампаніі «ПриватЛизинг» і ўваходзіць у назіральны савет страхавой кампаніі «Кентаўр») – па ч.2 арт.235 (легалізацыя («адмыванне») сродкаў, атрыманых злачынным шляхам, учыненыя паўторна, або службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў, альбо ў асабліва буйным памеры) і ч.2 арт.243 (ухіленне ад выплаты падаткаў, што пацягнула шкоду ў асабліва буйным памеры).

**Павел МАЗАК.**

ПАРАЛЕЛІ

# Ёсць з каго браць прыклад!

Адзін з сёлетніх прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Беларусі Валерый Цапкала сказаў, што калі Аляксандр Лукашэнка хоча застацца ў гісторыі, то ён павінен зрабіць транзіт улады цывілізавана, шляхам дэмакратычных выбараў. Хачу з гэтай нагоды прывесці паказальны прыклад з гісторыі ЗША.

Два прэзідэнты – Джордж Вашынгтан і Томас Джэферсан. Першы ў свой час (быў прэзідэнтам з 1789-га па 1797 год) заявіў, што, нягледзячы на ўсе заклікі і ўгаворы, не будзе балатавацца на трэці тэрмін, таму як прынцып зманяльнасці ўлады значна важнейшы за ўсе астатнія. Нават неабходнасць захавання праслаутай стабільнасці не магла быць падставай яго парушэння.

У 1801 годзе Томас Джэферсан стаў трэцім прэзідэнтам і заставаўся ім таксама два тэрміны. Пры ім за восем гадоў





краіна радыкальна змянілася. У гісторыі ЗША ён лічыцца адным з самых знакамітых кіраўнікоў і невыпадкова з'яўляецца адным з чатырох амерыканскіх прэзідэнтаў (разам з Вашынгтанам, Рузвельтам і Лінкальнам), імёны якіх увекавечаны на агромністым барэльефе на гары Рашмор у Паўднёвай Дакоце. Дарэчы, Томас Джэферсан – аўтар Дэкларацыі незалежнасці Амерыкі, закона штата Вірджынія і закона аб свабодзе веравызнання, заснавальнік універсітэта Вірджыніі.

Як бачым, усё залежыць ад самога чалавека, ад таго, якой галоўнай мэты ён хацеў дасягнуць. Ніхто са згаданых прэзідэнтаў нават не думаў заставацца на сваёй пасадзе пажыццёва. Калі ўжо ківаць у бок Амерыкі, дык трэба з гэтага пачынаць і вучыцца дэмакратыі ў тых, хто яе рэальна ствараў.

З павагай –

**Аляксандр КУХАРОНАК, жыхар г.п.Смілавічы.**

ДИСКУССИЯ

# Нужно ли менять правила вступительной кампании?

29 июня на собрании педагогического актива страны А.Лукашенко озвучил несколько идей, связанных с дальнейшим развитием отечественной системы образования. Не будем заострять внимание на обещании в новой пятилетке обеспечить иногородних студентов общежитиями. Обычное предвыборное обещание, коих у Александра Григорьевича накопилось великое множество. Спокойно отнесемся к обещанию довести в новой пятилетке оплату труда профессорско-преподавательского состава до 150 процентов от средней по стране. Заметим, что данное положение было декларировано в статье 52 принятого в октябре 1991 года Закона «Об образовании в Республике Беларусь». Обещанного три года ждут, здесь же прошло почти тридцать…



Наибольшего внимания заслуживает, как мне представляется, высказанное главой государства предложение по изменению формата вступительных испытаний при поступлении в вузы. Этот вопрос в сфере внимания абсолютного большинства выпускников общеобразовательной школы. Так, в этом году на централизованное тестирование (ЦТ) записалось около 64 тысяч человек. Действующая ныне система была введена Указом Президента РБ от 07.02.2006 №80 «О правилах приема в высшие и средние специальные учебные заведения». За прошедшее время выявились как положительные, так и отрицательные стороны этого процесса. Самый принципиальный вопрос: какая система более справедлива – ЦТ или же ранее действующий механизм приема экзаменов у каждого абитуриента членами экзаменационных комиссий?

Сравнение, по моему мнению, не в пользу первого варианта. ЦТ, которое затевалось как наиболее объективный процесс оценки знаний абитуриентов, далеко не всегда эту функцию выполняет. Приведу конкретный пример. Тест по математике состоит из двух групп заданий: 18 заданий с пятью ответами на каждое, один из которых правильный, и 12 заданий, где надо дать конкретный ответ в виде целого числа. По теории вероятности, человек с нулевыми знаниями по математике может угадать порядка 20 процентов правильных ответов на первые 18 заданий. При выполнении второй группы заданий имели место случаи, когда абитуриент делал техническую ошибку. К примеру, полностью выполнив задание и получив в итоге результат 2x=18, он записал ответ: x=8. При приеме экзамена комиссией это трактуется как недочет или описка и если и влияет на итоговую оценку, то несущественно. При ЦТ в таком случае за задание ставится нулевая оценка. В СМИ приводился пример, когда абитуриент, не изучавший китайский язык, при сдаче соответствующего теста «методом тыка» получил 41 балл. Примеры подобного рода отнюдь не единичны. Кроме того, при сдаче экзамена комиссии существует возможность апелляции, при ЦТ такой вариант разрешения спорных ситуаций отсутствует. Справедливости ради следует признать, что ЦТ позволяет значительно снизить степень коррупции и блата при проведении вступительной кампании.

На практике имеется множество больших и малых вопросов, требующих разрешения. Как увязать в единое целое выпускные школьные экзамены и вступительную кампанию? Какой избрать оптимальный механизм ее проведения, как определить возможные льготы, обоснованность ограничений, введение дополнительных вступительных испытаний по отдельным специальностям, роль среднего балла аттестата, медали, целевых направлений и т.д.? Означает ли это, что надо возвратиться к ранее действующей системе приемных экзаменов? Отнюдь нет. Это должен быть совершенно новый документ, четко регламентирующий проведение приемной кампании.

Каким мне видится путь ее решения? ***Во-первых,*** для разработки проекта соответствующего нормативно-правового акта необходимо создать профессионально подготовленную рабочую группу. Здесь решающим фактором будет ее персональный состав. В нее должны войти известные педагоги, представляющие высшую и общеобразовательную школу, люди, имеющие различные точки зрения.

***Во-вторых***, в ходе разработки основных положений будущего документа целесообразно использовать опыт зарубежных коллег. Естественно, с учетом белорусских реалий. Заслуживает внимания обязательная с 2009 года на всей территории России система единого государственного экзамена (ЕГЭ). Хотя она в России подвергается критике, отдельные ее положения, возможно, могли бы быть использованы у нас. Достоинство системы ЕГЭ заключается хотя бы в том, что она является одновременно единственной формой выпускных экзаменов в школе и основной формой вступительных экзаменов в вузы. Выпускники дважды не оказываются в стрессовых ситуациях. Имеются существенные отличия между централизованным проведением экзаменов по общеобразовательным предметам в России и организацией тестирования в нашей стране. Их следовало бы внимательно изучить. Интересен также опыт Великобритании, Германии, Финляндии, Израиля, других государств, где на протяжении многих лет обсуждаемая проблема решается весьма успешно.

***В-третьих,*** необходимо создать дискуссионную площадку по данной тематике. У нас немодно выносить вопросы, затрагивающие интересы многих граждан, на обсуждение общественности, и прежде всего профессионалов. Тех, кто способен объективно оценить реальную ситуацию и не боится публично высказать свою позицию. Безусловно, в этом должны быть задействованы кроме печатных СМИ национальные телевизионные каналы, монополизированные государством в нарушение статьи 33 Основного закона. В споре, как известно, рождается истина. Такой путь, как мне представляется, позволит найти оптимальный вариант решения данной проблемы.

**Николай КОВШ, кандидат педагогических наук.**

*Брест.*

### *ОБ АВТОРЕ*



*Николай Ковш в 1963 году с отличием окончил физико-математический факультет Мозырского пединститута. Работал учителем физики сельской школы в Столинском районе, инспектором школ Столинского района. С декабря 1972 года – инспектор школ Брестского облоно, с декабря 1976 года – заместитель директора областного ИУУ. В 1979–1996 годах работал в должности заместителя начальника управления образования Брестского облисполкома, с апреля 1996 по сентябрь 2002 года – председателем обкома отраслевого профсоюза. Тема диссертации: «Управленческая деятельность органов образования по укреплению здоровья школьников».*

SOS!

# Як дыхае беларуская мова ў раённым друку?

Цікава, ці праводзяцца ў нашай краіне канкрэтныя, з непадманнымі лічбамі сацыялагічныя даследаванні пра выкарыстанне мовы тытульнай нацыі – беларускай – у дзяржаўных і недзяржаўных СМІ (друк, радыё, тэлебачанне) Рэспублікі Беларусь? Ці існуюць доказныя даследаванні пра пашыранасць і эвалюцыю гэтага выкарыстання пачынаючы з апошніх гадоў існавання СССР і ўтварэння РБ? Прызнацца, прыеліся ўжо агульныя, хаця і слушныя, нараканні на выцясненне з дзяржаватворчага працэсу беларускай мовы, а – з другога боку – мала чым падмацаваны аптымізм пра яе ўсеагульны росквіт…

Прымем за аксіёму, сцверджаную ходам гістарычнага быцця ўсіх народаў свету, што мова – усяму аснова: нацыянальнай культуры, нацыянальнай ідэі, самой нацыі, яе дзяржаўнаму існаванню, дзяржаўнаму суверэнітэту. Не будзем забываць і ўдззлбьпрарочыя выказванні аднаго з апосталаў беларускага адраджэння Францішка Багушэвіча: пра вызначэнне этнаграфічных межаў Беларусі – «Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець…», а таксама яго палкі заклік: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

А мова наша заўсёды жыла і яшчэ, дзякуй Богу, жыве найперш у асяроддзі сельскім (праўда, апошнім часам становіцца нярэдка і гараджанкай). Але ж як яна там дыхае? Што і хто дапамагае яе дыханню, а што і хто яго перахоплівае?

Доўгі час пры савецкай уладзе беларускую мову ў значнай ступені ахоўваў і захоўваў раённы друк. Пры тым што дзяржаўнай мовай у СССР была руская (толькі ў апошнія гады існавання краіны азербайджанцы і грузіны дабіліся, каб да яе былі далучаны і іх нацыянальныя мовы), раённыя газеты ў Беларусі дазвалялася выдаваць («паводле жадання чытачоў») і на беларускай мове. У выніку большасць раёнак – самы чытэльны перыядычны друк – былі выключна беларускамоўныя, што надзвычай дапамагала папулярызацыі нашай роднай мовы. Гэтай папулярызацыі спрыялі таксама беларускамоўны абласны і рэспубліканскі друк, нешматлікія, але ў савецкі час пераважна беларускамоўныя каналы дзяржаўнага радыё і тэлебачання. Я ўжо не кажу пра галоўныя крыніцы, што наталялі і мацавалі нацыянальны імунітэт народа – культурныя ўстановы і беларускія школы, з якіх хаця б адна, у адрозненне ад сённяшняга дня, была і ў кожным раённым цэнтры. Аднак жа як выглядае сёння ў моўным сэнсе дзяржаўны раённы друк?

Пры нагодзе я прагартаў выбраныя наўскідку паўтара дзясятка сучасных раённых газет Мінскай вобласці, якія выходзяць раз ці два на тыдзень фарматам А3 агульным тыднёвым аб'ёмам 20–24 старонкі (за невялікім выключэннем у той ці іншы бок). Усе яны, як напісана ў выхадных дадзеных, заснаваны раённымі выканаўчымі камітэтамі і «выдаюцца на беларускай і рускай мовах». Ці так гэта (маю на ўвазе апошняе)? Глянем на табліцу, у якой зафіксаваны вынікі вывучэння мною адзінаццаці (з усіх дваццаці дзвюх) раённых газет, што выйшлі ў свет у перадапошні чэрвеньскі тыдзень (з 23-га па 27-га) гэтага года. Вось што паказалі мае назіранні і падлікі. Прычым лічбы і працэнты прыблізна тыя самыя, што і ў папярэднія месяцы.

Названыя газеты выходзяць у раённых цэнтрах і разлічаны пераважна на вясковае насельніцтва. Зрэшты, вяскоўцы найахвотней і падпісваюцца на раённы друк, тыраж якога, пачынаючыся з 3–4 тысяч («Нясвіжскія навіны», «Да новых перамог», «Голас Любаншчыны», «Слуцкі край»), дасягае 7 тысяч («Нарачанская зара», «Працоўная слава», «Пухавіцкія навіны») і нават больш. Так, агульны тыднёвы тыраж вілейскага «Шляху перамогі» – 9065 асобнікаў, стаўбцоўскага «Промня» яшчэ больш – 9671. Гэта і не дзіўна: у раёнках пішацца пра сваё, блізкае, знаёмае. Апрача гэтага, тут штотыднёвыя тэлепраграмы, мясцовая рэклама, аб'явы, віншаванні…

Калісьці ўсё (ці амаль усё) у раёнках падавалася на беларускай літаратурнай мове, што садзейнічала не толькі яе падтрымцы, папулярызацыі, але і глыбейшаму вывучэнню насельніцтвам, павышэнню культуры роднага слова. Дарэчы, заўважым, што ў сучаснай папулярнай прыватнай «Рэгіянальнай газеце» (Маладзечна; заснавальнікі Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч) не толькі «Тэлетыдзень», але і ўсе іншыя матэрыялы, нават прыватныя аб'явы і крыжаванкі, друкуюцца па-беларуску. І ўсе чытачы ўсё разумеюць. У пералічаных жа ў табліцы дзяржаўных газетах названыя сацыякультурныя задачы вельмі мала, а то і зусім не вырашаюцца. Ды і як іх вырашыш, калі ў «Шахцёры» ад беларускай мовы засталіся хіба што назвы газеты ды яе рубрык («У цэнтры ўвагі», «Салігарчане», «Віншаванні і аб'явы»), або, як у «Жодзінскіх навінах», – толькі адна назва. Не моцна спрыяюць беларушчыне і тыя раёнкі, дзе беларускай мове за тыдзень адводзяцца ўсяго дзве-тры старонкі з 20 ці з 24, а то нават і з 32 («Маладзечанская газета»)…

| Назва газеты, месца выдання | Прозвішча галоўнага рэдактара | Агульная колькасць газетных старонак А3 за тыдзень | Аб'ём матэрыялаў на беларускай мове, у % і колькасці старонак |
|---|---|---|---|
| «Шахцёр» (Салігорск) | Паўленка Н. | 20 | 0% |
| «Жодзінскія навіны» (Жодзіна) | Глушко В.У. | 16 | 0% |
| «Край Смалявіцкі» (Смалявічы) | Меркуль М.І. | 28 | 1,8% (0,5) |
| «Маладзечанская газета» (Маладзечна) | Крупянькоў В.М. | 32 | 7% (2,25) |
| «Да новых перамог» (Клецк) | Гардзіевіч Ж.Б. | 24 | 7,3% (1,75) |
| «Родны край» (Лагойск) | Хабарава Т.Л. | 24 | 8,3% (2) |
| «Пухавіцкія навіны» (Пухавічы) | Савасцюк В.У. | 20 | 10% (2) |
| «Слуцкі край» (Слуцк) | Каваленка І.М. | 24 | 10,4% (2,5) |
| «Нясвіжскія навіны» (Нясвіж) | Янчанка Дз. | 20 | 11,25% (2,25) |
| «Шлях перамогі» (Вілейка) | Будзько І.В. | 24 | 12,5% (3) |
| «Голас Любаншчыны» (Любань) | Матусевіч Т.Б. | 20 | 15% (3) |

Мне могуць запярэчыць: тыдзень 23–27 чэрвеня ў гэтых адносінах не зусім тыповы для раённых газет. Апрача традыцыйнай тыднёвай тэлепраграмы на трох-чатырох старонках усе яны змясцілі не меншыя па аб'ёме «Составы и численность участковых комиссий по выборам Президента Республики Беларусь». Зразумела, патрэбныя матэрыялы. Але хіба іх вартасць зменшылася б, калі б яны былі надрукаваны на беларускай мове? Пры тых жа варунках мядзельская «Нарачанская зара» (рэдактар Ірына Міленцьеўна Ярчак) адвяла беларускамоўным матэрыялам не 2–15%, а 43,75% папяровай плошчы, валожынская «Працоўная слава» (рэдактар Сяргей Браніслававіч Садоўскі) – 56,25%, а стаўбцоўскі «Прамень» (рэдактар Нэлі Леанідаўна Астрэйка) – ажно 17 старонак выдання з 24, або 70,8%! Значыць, не толькі (а хутчэй за ўсё – не столькі) аб'ектыўныя фактары, колькі суб'ектыўныя ўплываюць на, вобразна кажучы, дыханне беларускай мовы ў гэтых выданнях. Сучасны ж закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы з яго ўзаемавыключальнымі злучнікамі «і (або)», што належным прыкладам лёгка ўваходзіць у лінгвапаліталогію, дазваляе і шырока карыстацца, і (або) зусім не карыстацца беларускай мовай у друку. І не толькі ў друку, як мы ведаем. Усё залежыць… Ад каго? У вялікай, калі не вырашальнай, ступені – ад галоўных рэдактараў названых выданняў. Іх прозвішчы мы і паказалі ў табліцы. Няхай ведаюць чытачы раёнак, хто ім (не)дазваляе сустрэцца з родным словам. Прычым не дзе-небудзь, а ў беларускім (паводле этнічнай скіраванасці) друку незалежнай Рэспублікі Беларусь (паводле Канстытуцыі).

**Вячаслаў РАГОЙША, доктар філалагічных навук, прафесар.**

